№ 6 [9] ЧЭРВЕНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 688744.

Падпісная цана на год 300 фр.

# Ля крыніцы разладу

Шмат ёсьць на сьвеце крыніцаў з якіх выцякаюць раўчукі і рэчкі, што напойваюць сочныя травы і зьвільготніваюць хлебаносную ральлю, з якое здабывае сабе пажыву чалавек. Ня мала аднак ёсьць і гнілых вазёраў, ды багнаў зацягненых тваньню, з якіх распаўсюджваецца заразнае паветра для людзей і зьвяроў. Вада выцякае з крыніц, і тая-ж самая вада знайходзіцца ў багнах — толькі што гнілая.

Наймагутнейшаю крыніцаю асабістага і грамадзкага дабрабыту і задаваленьня ёсьць любоў —любоў самога сябе і любоў іншых, але калі яна вырадзіцца, выбуяе, згніе — стаецца найгоршым гнілым возерам з якога выцякаюць для чалавека найбольшыя няшчасьці. Калісь старыя рымскія філязофы паўтаралі: «Сапсуцьцё найлепшага ёсьць найгоршым».

Любоў самога сябе кожнаму чалавеку на толькі самазразумелая, што кажам аб урожданай любові. Нават Божае прыказаньне любові бліжняга апіраецца на гэтай уроджанай любові - да самога сябе: «Любі бліжняга свайго, як самога сябе» (Мат. 22, 39) кажацца ў сьв. Пісаньні.

Разумная любоў самога сябе ніколі не стаіць на перашкодзе нават той найбольшай любові бліжняга, якая сягае аж да самаахвярнасьці: «Ніхто ня мае большае любові за тую, калі хто аддасьць душу сваю за прыяцялёў сваіх». (Ів. 15, 13).

Калі-ж асабістая любоў выроджваецца, буяе, тады наадварот — чалавек самалюб гатоў увесь сьвет трупам палажыць, каб толькі сабе зрабіць прыемнасьць. Гісторыя захавала нямала такіх жудасных фактаў: Ірад мардаваў усіх, да каго меў нават найменшае падазрэньне; Нэрон для асабістае прыемнасьці загадаў запаліць Рым і сьпяваў гледзячы на палымнеючы шматлюдны горад пад распачлівыя гукі гінучых у полымі людзей. Аб іншых і сучасных Нэронах лепш і не гаварыць, бо і так добра ведамы тыя пасады, якія крыюць пад сабою мільёны трупаў нявінных людзей.

Звыраднелая асабістая любоў стаецца няшчасьцем для грамадзтва ня толькі тады, калі гэтыя асобы займаюць дзяржаўныя становішчы, але нават і тады, калі яны належаць да шэрае масы. Хто ня чуў дакорлівага слова — эгаіст? Аднак у імя праўды трэба зазначыць, што эгаізм не заўсёды ёсьць нечым дрэнным, бо ўсякая любоў сябе самога называецца эгаізмам-сябелюбствам. Трэба аднак разрозьніць нармальны эгаізм сябелюбства, ад таго выбуялага, які мяжуецца з эгатызмам-самаабажаньнем.

Нармальна чалавек абажае толькі Бога; Яму будуе аўтары, складае ахвяры і выконвае Яго волю — эгатыст наадварот — ён сваё «Я» ўважае за найвышэйшае дабро, яго ставіць на аўтар пры кожнай сваёй думцы, у кожным сваім дзеяньні, яму адзінаму служыць, увесь сьвет можа прынесьці яму ў ахвяры; перад гэтым «Я» паліць сьвечкі і кадзіла, сам б'е яму паклоны і стараецца, каб гэтае-ж рабілі ўсе іншыя. Рымскія імпэратары, пачынаючы ад Цэзара, рабілі гэта яўна, будуючы для сваіх статуяў сьвятыні і прысвячаючы ім адпаведны культ, а іх пазьнейшыя

і сучасныя пасьлядоўнікі робяць гэта ў прыкрытай форме.

Ды ня толькі на імпэратарскіх пасадах спатыкаюцца эгатысты, іх можна сустрэць усюды; не бракуе іх нават і між «пабожнымі» вернікамі. Шырокаведамы на Бларусі жарт аб тым, як шляхціц маліўся ў касьцеле перад абразом Хрыста, за якім прыпадкам знайходзіўся арганісты, які ведаў добра яўныя грахі гэтага шляхціца і пачаў з-за абраза голасна дакараць яго. Тады шляхціц, уважаючы, што дакоры паходзяць з вуснаў самога Хрыста, кінуў маліцца, кінуўся з пагрозаю да абраза, горда заяўляючы: «Хоць Ты і Хрыстос, але Ты жыд, а я радавіты шляхціц і абражаць мяне ня маеш права».

Гэты жарт мае вельмі глыбокі, а магчыма нават і трагічны зьмест: эгатыст ня здольны ўспрыймаць разважнага голасу, калі ён у нейкі спосаб закранае ягонае «сьвятое Я» — ён засьлеплены ў эгаістычнай любові. Калі гэты жарт за ахвяру выбраў чалавека, які ўсё-ж прызнае Бога і хоча нават маліцца да Яго, дык якіх межаў даходзяць тыя эгатысты, якія ня прызнаюць зусім Бога? Для іх іхняе «Я» стае абсалютным ідалам, які вымагае сабе такога ідалапаклонства, што можа прыбіраць жудасныя формы. Неперальічыць тых усіх няшчасьцяў у дзяржаўным, царкоўным і грамадзкім жыцьці, якія спрычынілі адзінкі з неакелзаным самалюбствам-эгатызмам.

Самазразумела, што наш народ не зьяўляецца нейкім выняткам, таму і між беларусаў не бракуе адзінак з больш або менш выразнымі азнакамі хваравлівага эгаізму, якія ўсюды стараюцца вывышшыць сваё я, і пры найменшай няўвазе да іх страшэнна абражаюцца і крыўдуюць. Гэта зьявішча не належыць да нейкіх надзвычайных ці выняткowых і аб ім нат' ня трэба было-б успамінаць, каб ня нашае своеасаблівае эміграцыйнае палажэньне. У дзяржаўных і больш зарганізаваных народаў ёсьць папросту фізычныя абмежаваньні для эгаізму і эгатызму, дык там яны мала адчувальныя; ясна што ня ўсюды так шчасьліва, бо ўсім ведамы сёньняшні ідал, для якога розных тытулаў з най... і межаў няма. Аднак тут у Зах. Эўропе, дзе расьцярушана беларуская эміграцыя, вельмі балюча адчуваецца сучасны разлад, выкліканы эгаістычнымі пачынаньнямі розных адзінак, якія не прызнаюць над сабою ніякага, нават маральнага абмежаваньня ў шкоднай працы.

Аб тым, што запраўды сучаснае разьбіцьцё беларускае эміграцыі балюча адчуваецца грамадзтвам, сьведчаць ясна-ж не палямічныя лістоўкі, але некаторыя лісты тых, так званых «простых» людзей, якія яшчэ ня выкрывілі свае шчырае беларускае душы на «модны» манер. Ад гэткіх людзей наплываюць лісты з просьбамі і заклікамі, якія запраўды з беларускаю шчырасьцю клічуць рассвараных братоў да згоды, да паразуменьня. Ці іхнія галасы дойдуць да сэрцаў і вушэй тых, да каго яны адрасованыя, можна паважна сумнявацца, а калі й дойдуць, дык ці будуць мець пажаданы вынік, яшчэ менш верагодна. Аднак нельга аставацца зусім пасыўным і абмяжоўвацца толькі нараканьнем, у аблічча сумнае рэчаіснасьці.

Увайходзіць у спрэчкі з рассваранымі — раўназначна з тым, каб бэнзынаю пажар тушыць; клікаць заглушаных — вельмі цяжка; адхаяць іх — ня ў нашай моцы; аздаравіць засьлепленых — гэта такая сьлепата, што ў нашых аптэках няма на яе леку, бо ніхто сябе ня хоча прызнаваць вінаватым, а стараецца дабачыць віну толькі ў іншым. Кожнаму аднак ведама, што на духовыя хваробы найбольш дзейныя лекі знайходзяцца ў надпрыродным парадку ў міласэрнага Бога, да Якога зьвяртацца можа кожны і ўсюды. Дык вось заклікаем усіх людзей добрае волі да шчырае малітвы, каб Бог аздаравіў нашыя грамадзкія хваробы, каб Ён сваею валадарнаю рукою накіраваў наша грамадзкае жыцьцё на сьветлы шлях, які вядзе да агульнага і асабістага дабрабыту і спасеньня так усяго нашага народу, як і кожнага з нас паасобку.

Ля шматлікіх цудатворных мейсцаў ёсьць крыніцы, з якіх бязустанку крынічыць крыштальна чыстая вада; заўсёды каля іх з сэрцаў і вуснаў вернікаў плывуць шчырыя малітвы, а ў адказ на іх з надпрыроднае нябеснае крыніцы сплывае аздараўляючая і ўсёажыўляючая Божая ласка...

**а. Лазар.**

# Мэта людзкога жыцьця

Аб тым што ўсё існуючае на сьвеце мае сваю мэту, так для кожнага ясна і самазразумела, што калі пазнаём нешта новае, дык адразу пытаем: нашто гэта?

Пазнаючы дакладней акружаючы нас сьвет і адказваючы на пастаўленае пытаньне, бачым, што вельмі шмат рэчаў служыць чалавеку ці то пасрэдна, ці такі беспасрэдна:

Паветра падтрымоўвае жыцьцё; некаторыя атмасфэрычныя зьявы ахараняюць яго ад шкоднага дзеяньня далейшага сьвету; расьліны ачышчаюць паветра, сваімі кветкамі яны упрыгожваюць зямлю і напамінаюць аб красе Створцы, а сваімі овачамі кормяць чалавека ды жывёлаў; птушкі сваім сьпевам разьвесяляюць, а вынішчваньнем жамяры нармуюць яе размнажэньне; хатная жывёла ўспамагае й корміць чалавека, а сваім послухам дае шмат нагоды да глыбейшае застановы; шмат якія жывёлы прыбіраюць і ачышчаюць зямлю ад падалі, а нязьлічаныя дробныя жывучкі адпаведна пераапрацоўваюць ральлю, каб была хлебароднай; творы людзкога розуму — фабрыкі і машыны сьведчаць аб яго магутнасьці, а калекі і немачныя, калі сам з ласкі Бога не зьяўляешся адным з іх, сьведчаць аб людзкой немачы; мігатлівыя зоры часта вабяць чалавека падняць галаву ўвысь і адначасна ўзьняць свае думкі, а магільныя крыжы — аб апошняй вандроўцы чалавека. Шмат якія прыродныя стыхіі чалавек змог апанаваць і ўпрагчы іх да працы на сваю карысьць. Амаль на кожным кроку цяпер можна заўважыць, што гаспадаром на зямлі зьяўляецца чалавек — але нашто ён сам тут на гэтай зямлі? Ці-ж на тое, каб прайшоўшы свой цяжкі жыцьцёвы шлях, зьлегчы ў магілу на роўні з тымі жывёламі? Людзкі розум ніколі не гадзіўся з гэткаю думкаю, але ня мог знайсьці яснага адказу на пытаньне аб мэце свайго існаваньня.

З даўных давён чалавек бачыў сваё асобнае становішча на зямлі між усімі жывымі істотамі. З кожнага гледзішча між зьвярамі й чалавекам ёсьць істотная розьніца міма зманлівага падабенства. Усякія недамаганьні й боль жывёлы пераносяць з своеасаблівым супакоем; іх сум праміnae хутка і бясьсьледна. — Жаваранак, які перад хвілінаю ўцякаў ад хіжацкіх кіпцюроў каршуна, можа бястурботна трыліць пад хмарамі, хоць ня мае ані каморы з запасамі пажывы, ані даху над галавою; певень, які некалькі хвілін таму чубіўся з сваім супернікам, голасна крычыць сваё кукурэку; конь цяжка адпрацаваўшы цэлы дзень, спакойна й бястурботна стаіць перад хатаю, чакаючы свайго гаспадара — толькі чалавек ня можа зьліцца з вірам гэтага бястурботнага жыцьця; ён заўсёды чагось шукае, яму заўсёды нечага нестае; — нават радасьць чалавека нейкая паважная, хоць ён адзін з усіх жывёлаў можа сьмяяцца.

Чаго-ж шукае чалавек? Чаго шукаем мы, людзі? — Шчасьця!!!

Ад калыскі да магілы вабіць кожнага чалавека тое чароўнае, што мае агульны назоў шчасьце. І дзе толькі чалавек гэтага шчасьця ня шукае! У багацьці, почасьцях, славе, прыгажосьці, сіле, прыемнасьцях — але ці знайходзіць яго там? Большыя ці меншыя мамэнты задаваленьня заўсёды чаргуюцца з сумам, цярпеньнем і горам, а гэта страшэнна не гарманізуе з тым непераможным жаданьнем шчасьця. Які агулам тады сэнс мае людзкое жыцьцё: радзіцца на сьвет, памучыцца троха на зямлі ды горка расчараваўшыся ў пошуках вечнажаданага шчасьця, зноў адыходзіць у цёмную жудасную магілу? Таму некаторыя, страціўшы ўсякае разуменьне жыцьця, пачалі былі клікаць: «Ужывай жыцьця, пакуль са сьмерцю ня скончыцца камэдыя». Гэта аднак давяло да яшчэ горшых няшчасьцяў і цярпеньняў іх акружэньне, а самых прыхільнікаў гэткага жыцьця да звырадненьня.

Ваенныя падзеі асабліва апошняе сусьветнае вайны вельмі вымоўна і шматпавучаюча паказваюць як ветраннымі ёсьць усе надзеі на ўсякія земскія багацьці, почасьці ды ўсякія іншыя добра і прыемнасьці. Колькі тысяч багачоў у адзін мамэнт сталіся жабракамі? колькі тысячаў і тысячаў прыгожых і здаровых людзей сталіся жалюгоднымі калекамі ад разрыву аднае бомбы? а колькі ранейшых магутных і слаўных гэтага сьвету апынулася на лавах падсудных як найгоршых злачынцаў? Калі нават не такія страшныя катастрофы, дык нямінучая сьмерць, а часта нават старасьць пазбаўляе чалавека ўсіх гэтых прыемнасьцяў. А ўжо самая думка, што нейкая прыемнасьць можа быць забраная, атраўляе тое дробнае «шчасьце», якое прыносіць з сабою.

Гэтае незаспакоенае жаданьне з даўных давён змушала людзкі розум шукаць разгадкі на пытаньне: нашто чалавек існуе на зямлі, якая яго апошняя мэта, калі тут нельга чалавеку заспакоіць свайго найшчырэйшага жаданьня? У пошуках за разьвязкаю на гэтае пытаньне людзі часам даходзілі да самых недарэчных высноўкаў, і ўканцы, знямоганыя і зьняверaныя бясплоднымі пошукамі ўжо грэцкія філязофы паўтаралі: «Хіба сам Бог прыйдзе на зямлю і скажа нам праўду».

Запраўды Бог, Які пусьціў чалавека на сьвет, мусіў адначасна прызначыць яму нейкую мэту існаваньня і асьведаміць чалавека аб гэтай мэце. Так яно й было. Спачатку праз сваіх прарокаў, а потым праз Адзінароднага Сына, Бог ясна ўказаў людзям, што мэтай жыцьця чалавека на зямлі ёсьць: заслужыць на вечнае шчасьце ў Небе. Уся навука, усё Евангельле Хрыста ёсьць ня чым іншым,як добраю весткаю аб Нябесным Валадарстве. «Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і ржа нішчыць, і дзе зладзеі падкопваюцца і крадуць, але зьбірайце сабе скарбы на Небе, дзе ні моль ні ржа ня нішчаць і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць» (Мат. 6, 19-20). Мы, людзі, жывём на зямлі, але не для зямлі; мы тут толькі пярэхалам да жыцьця вечнага. На зямлі наша жыцьцё толькі пачынаецца, каб перайсьці да вечнага існаваньня ў іншым сьвеце. Усе іншыя жывёлы сваё жыцьцё на зямлі пачынаюць і на зямлі яго канчаюць, ня маючы ніякіх вышэйшых жаданьняў, ані не разьвіваючы, ні ўзбагачваючы свайго жыцьця. Чалавек наадварот мае ўроджаны гон, магчымасьць і нагоду ўзбагаціць сябе духова, назьбіраць тых нябесных скарбаў, аб якіх гаворыць Хрыстос. Чалавек мае магчымасьць узь-

няць сябе, запаноўваючы над сваімі жывёлінными гонамі, а праз гэтае самае адухавіць сябе. Чалавек мае магчымасьць беспасрэдна ўзьняцца да Самога Бога ў малітве, мае магчымасьць набыць розныя цноты, якія ўдасканальваюць чалавека і гэтым самым выканаць загад Хрыста: «Будзьце дасканалымі, як Айцец ваш нябесны ёсьць дасканалы» (Мат. 5, 48).

Страшным неаднаму можа выдавацца гэтае вымаганьне ад нас, немачных людзей, заўсёды занятых сваімі дробнымі і крапатлівымі заняткамі, каб мы былі дасканаламі, як Айцец нябесны. Але-ж праз гэтыя дробныя заняткі мы можам якнайлепш зблізіцца да Бога, бо нігдзе і ніхто ад нас ня можа вымагаць непасільных учынкаў, але затое вымагаецца ад нас, каб выконваць усюды Божую волю: «Будзь воля Твая, як на небе так і на зямлі» (Мат. 6, 10), таворым у малітве Гасподняй, а гэтае выконваньне волі Божае можа і павінна праяўляцца ў найбольш будзённых і дробных нашых занятках. Апостал Павал кажа: «Ці ясьцё, ці п'яцё, ці нешта робіце — ўсё на славу Божую рабеце» (I. Кор. 10, 31).

Гэтая вялікая мэта — у нашым земскім жыцьці дабравольна заслужыць на вечнае жыцьцё ў Небе, выконваючы Божую волю, дае разьвязку на ўсе жыцьцёвыя пытаньні й цяжкасьці ў нашым дачасным жыцьці. Да нябесных вышынь дарога ня лёгкая, ды йдзе яна тудэю, кудэю Бог яе пралажыў — праз крыж, праз цярпеньні, але затое вядзе яна да таго шчасьця, якога так нязьмерна жадае людзкая душа; — вядзе ў Царства Божае.

Аднойчы ў школе на ўроку прыродазнаўства настаўнік пытае вучня:

— Да якога царства належыць чалавек, ці да мінэралаў, ці да расьлінаў, ці да жывёлаў?

— Да Царства Божага! адказаў упэўнена пабожны хлапчына.

Так гэта ёсьць тое валадарства, якое прызначана для чалавека і да яго мы павінны скіроўвацца на кожным кроку.

Калі ў жыцьці настаюць такія часіны, у якіх пытаемся сябе ці іншых: «Што-ж цяпер рабіць?» Дык на гэта мусіць быць агульны адаз: «Рабіць трэба тое, што падабаецца Богу», або іншымі славамі: «Рабі так, як-бы Хрыстос рабіў на тваім мейсцы». Аб тым як агулам належыць выконваць сваю працу, найлепшую раду дае сьв. Бэрнард: «Рабі так, як-бы ты меў жыць вечна, а жыві так, як-бы ты меў памерці заўтра», бо-ж Божая слава мае трываць вечна, а нашае жыцьцё на зямлі можа скончыцца кожнае хвіліны.

Усё вышэйсказанае адносіцца да галоўнае, да тае апошняе мэты нашага жыцьця, але акрамя яе ёсьць яшчэ іншыя, другарадныя і падрадныя мэты штодзеннага жыцьця, але й яны мусяць быць у згодзе з тою галоўнаю мэтаю, аб якой была гутарка вышэй, а якую катэхізм так азначае ў кароткіх словах:

Бог стварыў нас на тое, каб мы Яго пазналі, Яго палюбілі, Яго праслаўлялі, выконвалі Яго волю і праз гэта асягнулі вечнае шчасьце.

Як да галоўных, вялікіх шляхоў вядуць дробныя дарожкі, пуцявіны і сьцежкі, так мусяць быць у згодзе з галоўнаю мэтаю нашы штодзенныя імкненьні і заняткі.

У нашай штодзеннай жыцьцёвай вандроўцы часта становімся на раздарожжы, часта заходзім у розныя гушчары, часта сустракаемся з рознымі прыманкамі, якія вабяць нас у розныя бакі — і вось тады трэба моцна *памятаць аб нашай галоўнай мэце жыцьця*, яна для нас будзе тады пуцяводнаю зоркаю, якая ня дасьць зблудзіцца і зыйсьці на бездарожжа.

Па бязьмежных прасторах акіянаў плаваюць розныя караблі і хоць на вадзе няма ніякага знаку водных шляхоў, яны ня зьбіваюцца з дарогі, бо маюць адну маленькую прыладу — компас, якога стрэлка заўсёды накіравана на поўнач і гэтым умагчымлівае знайсьці належны шлях. Трэба аднак ахараняць, каб паблізу компасу ня было зялеза, бо тады ён перастае правільна дзейнічаць; тое самае здараецца з чалавекам у розных зрадлівых абставінах.

Па адвечных драмучых пушчах Беларусі нашы продкі заўсёды знайходзілі ўмела належны шлях, кіруючыся па сонцу, зорах і залежных ад іх прыметах, бо ані сонца, ані зоры ніколі не мяняюць вызначаных Богам дарог.

Гэткім компасам, ці пуцяводнаю зоркаю ў нашым штодзенным жыцьці ёсьць наша апошняя мэта — Божая слава праз выконваньне Божае волі. Гэтая мэта адносіцца да кожнага чалавека ў асобнасьці, да кожнага народу, да кожнае дзяржавы.

**а. Леў.**

# Актыўнае веравызнаваньне

Часам у некаторых асяродзьдзях можна пачуць закід пад адрысам хрысьціян, што вернікі хрысьціяне вельмі пасыўныя і што гэта рэлігія іх робіць гэткімі. Закід гэты адзін з найбольш беспадстаўных і недарэчных, які можна сабе падумаць.

Што да самых вернікаў, дык пэўна-ж яны ня скроены пад адну меру; ёсьць розныя і таму не бракуе пасыўных, бо калі хто родзіцца з гэткаю натураю, дык ніякія ані грамадзкія, ані рэлігійныя дзейнікі яго не пераменяць, але гэта ня мае нічога супольнага з самаю рэлігіяю.

Затое праўдаю ёсьць, што з паміж усіх веравызнаваньняў на сьвеце хрысьціянства належыць да найбольш актыўных і з паміж хрысьціянскіх



веравызнаваньняў на першым мейсцы Каталіцызм, як аб гэтым нядаўна заявіў адзін з вызначных будыйскіх манахаў.

Азнаку актыўнасьці хрысьціянства атрымала ад свайго боскага Асноўніка Ісуса Хрыста, Які, прабываючы на зямлі, увесь час Сам працаваў, вёў актыўнае жыцьцё і гэтага вымагаў ад сваіх вучняў. Нехрысьціяне выясьняюць гэта маладым векам Ісуса.

Да трыццаці год Ісус працаваў цесьлям, а пасьля праз тры гады, дзень-у-дзень, абхадзіў Палестынскую зямлю, навучаючы і аздараўляючы людзей. На запытаньне жыдоўскіх законьнікаў: «Як спасьці душу?», Ісус адказвае прыкладнаю прыповесьцю аб добрых учынках і кажа: «Ідзі і ты **рабі** тэтак-жа» (Лук. 10, 37). Гаворачы аб страшным судзе, Хрыстос з асабліва вострым асуджаньнем зьвяртаецца да тых, што **не рабілі** добрых учынкаў (Мат. 25, 31-46).

Паводля прыкладу свайго Боскага Настаўніка пайшлі апосталы. Яны незмардавана абходзілі месты і вёскі, нясучы ўсюды радасную вестку сьв. Евангельля і даючы прыклад сваім актыўным жыцьцём, каб магчы сказаць сваім пасьлядоўнікам: «Малю вас, браты, будзьце маімі пераймальнікамі, як я Хрыста» (1. Кар. 4, 16). Хоць жыцьцёвы шлях апосталаў густа быў усланы перашкодамі і за выняткам толькі аднаго апостала Івана, усе іншыя хрыстовыя апосталы кончылі жыцьцё мучаніцкаю сьмерцю.

Гэты дух актыўнасьці пераняла Хрыстова Царква і захавала яго да сёньня. Адна за адною паўставалі ў Царкве розныя дабрадзейныя ўстановы, якія з поля свае дзейнасьці ня выключалі нікога.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць такія чыны і згуртованьні, як існаваўшы ў сярэднявеччы чын для выкупленьня нявольнікаў, сучасная каталіцкая Акцыя з яе Харытасам і шматлікія місіянэрскія зграмаджаньні, якія падрыхтоўваюць місіянэраў для дзікіх краінаў і дагладчыкаў ды дагладчыцаў для больніцаў пракажонных. У рамах гэтае зацемкі нельга нават пералічыць толькі самых назоваў дабрадзейных установаў Каталіцкае Царквы, ані тых шматлікіх сьвецкіх арганізацыяў, якія асабліва шырака разрасьліся за апошняе стагодзьдзе. Аднак нельга ня ўспомніць аб такой арганізацыі, як Сындыкат Хрысьціянскіх Работнікаў, які ў Францыі ў Бэльгіі гуртуе вялікую кольказсьць фабрычных работнікаў з усіх галінаў прамысловасьці і тых шматлікіх прафэсыйных чыста каталіцкіх арганізацыяў, як лекараў (пад пратэкцыяю сьв. Лукі), артыстаў, пісьменьнікаў, мастакоў (ведамае на ўвесь сьвет згуртованьне «Арс сакра»), згутраваньне жанчын, студэнтаў і т. д.

Асабліва мінулы год быў плодны на полі грамадзкае дзейнасьці розных агульнахрысьціянскіх і каталіцкіх прафэсыйных арганізацыяў, аб чым найлепш сьведчаць шматлікія зьезды ды кангрэсы ў Францыі, Бэльгіі, Гішпаніі й Італіі, якія шырокім рэхам знайходзілі адгалосак у прэсе амаль усіх краінаў.

Якраз дзякуючы гэтай шырокай дзейнасьці Хрысьціянства агулам, а Каталіцызм у асаблівасьці, штодзень мусіць вусна і пісьменна адбівацца ад рознага роду паклёпаў з боку ваюючага бязбожжа і яго яўных і схаваных агэнтураў. Як раней напалалі на Самога Хрыста, абзываючы Яго рознымі нават непрызваітымі словамі, так сёньня нападаючы на Яго Сьвятую Царкву і вернікаў. Ёсьць стварэньні Божыя, якія брэшуць і на сонца, аднак ня можуць зацьміць яго зьзяньня, так ня могуць ворагі Бога перамагчы праўды.

Хрыстос, адходзячы, суцяшаў сваіх вучняў, кажучы: «На сьвеце гора мець будзеце, але бадрыцеся: Я перамог сьвет» (Ьв. 16, 33). Гэтаю перамогаю жывечі жыць будзе вечна Яго Царква.

**М. Каваль.**

# Паходжаньне чалавека

**У сьвятле сучасных знахадкаў.**

Аб паходжаньні чалавека з навуковага гледзішча так шмат напісана, што нават цяжка закранаць гэтую тэму ў рамах невялікага часапіснага артыкулу, каб у ім якьслед здавальняюча паказаць сучасны стан гэтага так важнага пытаньня. Тым-ня-менш адчуваецца паважная патрэба інфармаваць чытачоў на гэтую тэму, бо ворагі рэлігіі, перакручваючы факты, выкарыстоўваюць гэтую тэму для свае прапаганды.

Біблійнае апавяданьне аб сатварэньні чалавека не зьяўляецца навуковым трактатам і напісана для простых людзей старое мінуўшчыны ў прыступнай для іх форме і мае галоўную мэту даказаць, што чалавек, як і ўвесь сусьвет існуе з волі Бога. Справаю навукі ёсьць прасьлядзіць, як Бог карыстаўся сваімі законамі ў сатварэньні чалавека, таму людзі і маюць уроджаную непераможную цікавасьць і гон да здабыцьця веды.

У сучасны мамэнт ёсьць паважныя адкрыцьці што да гэтага пытаньня, аднак было, а ў некаторых асяродках яшчэ і цяпер ёсьць, нямала шарлатанства нават між «навукоўцамі», якія ў пагоні за сэнсацыямі ашуквалі грамадзтва рознымі «знахадкамі чарапоў, то Евы, то Адама». У 1923 г. здарыўся нават такі выпадак: Газэты падавалі сэнсацыю, што нарэшце знайшлі чэрап доўгашуканага продка чалавека — самага запраўднага малпалюда. Яго меў знайсьці каляніст Вэнрыя ў

Аргэнтыне каля Пазо. Д. Вольф азначыў яму век — 500.000 г.; ангельскі вучоны Сміт апісаў як гэты малпалюд жыў і здабываў карэньні й яйцы малых птушак сабе на пажыву, але па двох месяцах выявілася, што гэта нават і ня чэрап, але найзвычайнейшы камень. Падобныя выпадкі крыху адменнага характару здараліся і раней.

Пасьля гэтага вучоныя што раз больш асьярожна і паважна адносяцца да новых знахадкаў, а гэта адбіваецца спрытліва на поступе дасьледжванага пытаньня.

Для лепшае арыентацыі найперш падамо некаторыя

**Агульныя заўвагі:**

Кожная галіна навукі мае асобную тэрміналёгію, якая для неабазнанага чытача заўсёды стварае большую або меншую перашкоду для яснага зразуменьня абгаворванае тэмы. Справаю паходжаньня чалавека найбольш цікавяцца дзьве галіны навукі: палеанталёгія і антрополёгія. З іхняе багатае тэрміналёгіі, для зразуменьня нашае тэмы, неабходна ведаць хоць самае асноўнае. Замест біблейскіх «дзён» тварэньня сёньня карыстаюцца грэцкім словам эра, якая ў сваю чаргу дзеліцца на пэрыяды ў такім парадку:

| Эры: | пэрыяды: |
|---|---|
| Археозойская | Архайскі (азойскі) |
| Палеозойская: (пяршачная) | Кэмбрыйскі<br>Сілюрыйскі<br>Дэвонскі<br>Каменнавугальны<br>Пэрмскі |
| Мэзозойская: (другачная) | Трыяс<br>Юр<br>Крэйдавы |
| Кэнозойская: (трацічная) | Эоцэн<br>Олігоцэн<br>Міоцэн<br>Пліоцэн |
| Нэозойская: (чацьвярцічная) | Плейстацэн<br>Олёцэн (сучасны) |

Варта зацеміць, што падобна як у біблейскім апавяданьні чалавек быў створаны ў апошні дзень тварэньня, так і ў сучаснай палеанталёгіі чалавек меў зьявіцца на парогу Кэнозойскае і Нэозойскае эры у канцы Пліоцэну.

Час трываньня паасобных пэрыядаў (падобна зрэштаю як і біблейскіх «дзён») рознымі вучонымі ацэньваюцца вельмі розна, так што тысяча, а нават і дзесяць тысяч гадоў у іхным гадаліченьні ня мае значэньня. Век знахадак азначаецца паводля тых пластоў зямлі, у якіх іх *знайходзяць*. Паўставаньне пластоў абумоўліваецца рознымі касмічнымі, гэалёгічнымі і мэтэрэолёгічнымі зьявішчамі; да гэтага створана аж некалькі дагадак, але сёньня найбольш прынятая мэтад аблічаньня веку пластоў падаў Міланковіч, апіраючыся на факце сыстэматычнае зьменьлівасьці сонечнае радыяцыі (выпраменяваньня), якія абумоўліваюць паўставаньні ледавіковых пэрыядаў.

Пасьля гэтых агульных заўвагаў пяройдзем да пералічэньня найстарэйшых знахадак людзкіх касьцякоў.

**Чалавек старэйшага Плейстацэну.**

Да рэштак найстарэйшага чалавека знойдзеных на абшары Эўропы, належаць:

1. Некалькі костак чэрапу і канцавін знойдзеных у 1911 і 1918 г.г. Дэвстонам каля Пільтдоўн у Англіі. Чэрап азначаецца малым уцякаючым чалом і выстаючымі надброўнымі дугамі. (Назвалі яго Эоантропос).

2. Частка чэрапу знойдзеная ў 1936 г. Свансомбам у той-жа Англіі на берагох Тамізы адначасна з прыладамі Ашэльскае культуры. Гэты чэрап яшчэ больш некамплетны чым папярэдні, але з больш увыдатненымі азнакамі сучаснага чалавека, таму некаторыя аспрэчвалі яго старавеtнасьць, аднак умысная камісія Лёнданскага Антрапалягічнага Інстытуту ў 1939 г. прызнала яго прыналежнасьць да старшага Плейстацэну.

3. Сківіца знойдзеная ў 1907 г. каля Гайдэльбэргу ў Пячоры Маер — Нямеччына — яна вельмі масыўная з тыпічнымі людзкімі зубамі, але без падбародка, што яе зьбліжае да шымпанзе.

На абшары Азіі й іншых краінаў маецца крыху больш рэштак.

4. У раскопках каля Пэкіну пачынаючы ад 1929 г. да сёньня знойдзена ў аднэй пячоры (Чу-Ку-Тіен) каля сарака рэштак чэрапоў і вельмі мала іншых костак істоты, якую назвалі сінантропос. Чэрапы побач азнак сучаснага чалавека маюць некаторыя азнакі малпячыя, як: плоскае ўцякаючае чало, нізкае цемяннае скляпеньне, моцна выстаючыя надброўныя дугі. Аднак самая пячора, дзе іх знайшлі вельмі загадкавая, бо ёсьць толькі сьляды вогнішча і шмат косьцяў іншых жывёлаў, якія зьмешаныя з чарапамі сінантрапа. Выглядае так што ўсе яны зьяўляюцца рэшткамі банкету чалавека людаеда, які мусіў быць іншы ад таго сінантропа. Век сінантропа адносіцца да канца Пліоцэну.

5. Найбольш выразна выступаюць прымітыўныя азнакі ў чэрапе знойдзеным Др. Дзюбуа на абтоку Ява ў 1890 г. у галох 1936, 1937 і 1939 знойдзена яшчэ некалькі частак гэткага чэрапу — гэта той слаўны пітэкантропос (малпалюд), аб якім свайго часу так шмат пісалі й гаварылі. У *ім запраўды сьледныя* амаль у аднолькавай ступені малпячыя й людзкія азнакі, таму некаторыя абавязкава ў ім хацелі дабачыць продка сучаснага чалавека. Аднак мейсца знахадкі вельмі дзіўнае, бо побач знойдзена косткі бядрыц, якія больш падобныя да сучаснага чалавека, чым да таго пітэкантрапа, а сам пласт зямлі дзе зроблены гэтыя знахадкі некаторыя адносяць да сярэдняга Плейстацэну, а гэта сьведчыла-б, што ён зьяўляецца толькі доказам пераэкзістэнцыі (пераіснаваньня) прымітыўнага людзкога тыпу побач больш разьвітых расаў.

6. На абшары Афрыкі ў 1935 г. каля возера Ньярса знойдзена два вельмі прымітыўныя чарапы істоты, якую назвалі афрыканатропос. Марфалягічныя азнакі гэтых чарапоў даволі блізкія да гэных Пэкінскіх сінантрапаў, аднак супаставіць іх век вельмі цяжка. Што да самага спародненьня, як і што да веку погляды вучоных вельмі разьбежныя, бо прымітыўныя азнакі ў афрыканантрапа выступаюць вельмі выразна, але сам пласт дзе яго знайшлі паводля думкі некаторых вучоных (Іль Рэзв) мае адносіцца нават да сярэдняга Плейстацэну, значыць на час нэандэртальскага чалавека. Але іншыя апіраючыся толькі на марфалягічных азнаках (Г. Вайнэрт) стараюцца дабачыць у ім найстарэйшага чалавека.

7. Зусім нядаўна шмат гоману між вучонымі нарабіла вестка аб знахадцы ўва Усходняй Афрыцы чарапоў і цкелетаў людзей із старэйшага Плейстацэну зусім падобных да сучаснага чалавека расы нэграў (Ольдовэй, Канам), аднак пазьнейшыя досьледы аднесьлі гэтую знахатку да сярэдняга Плейстацэну.

8. У 1947 г. каля Каіру знайшлі стаянку чалавека з канца Пліоцэну, але дакладнейшых вестак аб іншых знахадках на гэтым мейсцы пакуль што няма — досьледы прадаўжаюцца. Падобную знахадку у тым-жа 1947 г. зрабілі на абшары З.Ш.А.

9. Да тэмы будзе успомніць, што ў Аўстралійскай Афрыцы знойдзена чэрап дзіцяці гадоў 7 з вельмі прымітыўнымі азнакамі зьбліжанымі да шымпанзе, назвалі яго Аўстралёпітэкус афрыканус. Аднак паважнейшыя вучоныя агулам устрымліваюцца гаварыць аб ім нешта больш канкрэтнае, зважыўшы на тое, што мауцца дачыненьні толькі з часткаю чэрапа малога дзіцяці. Пазьней знойдзена ў тэй-жа Афрыцы яшчэ два ашчапкі чарапоў неазначанага веку, што да якіх нічога канкрэтнага сказаць тымчасам немагчыма.

**Чалавек сярэдняга Плейстацэну.**

Калі мы бачылі, што чалавек ужо існаваў у пачатку Плейстацэну, а нават у канцы Плиоцэну, дык няма патрэбы гаварыць аб тым, што чалавек існаваў у сярэднім Плейстацэне, аднак таму што нават самы агульны пагляд на людзей сярэдняга Плейстацэну кідае вельмі важны сьвет на некаторыя спрэчныя пытаньні, нельга не закрануць гэтага пэрыяду.

Найбольш ведамым і распаўсюджаным у Эўропе і часткава ў Афрыцы чалавекам пары сярэдняга Плейстацэну быў так званы нэандэртальскі чалавек. Першы яго чэрап знойдзена ў 1856 г. каля Діссэльдорфу ў Нямеччыне. Да сёньняшняга дня ведама больш 80 касьцякоў гэтага чалавека. Росту ён быў невялікага, да 1,60 м. Галаву меў падаўгастую з нізкім уцякаючым чалом, але з досыць вялікім мозгам каля 1.400 куб. цм. (Сучасны чалавек мае нармальна ад 1.375 да 1.500 куб. цм.). Надвочныя дугі былі даволі выстаючымі і сківіца была без падбародка. Аб тым што гэта быў чалавек няма найменшага сумніву, бо ён умеў вырабляць прылады з косьці і каменьня, а нават меў рэлігію — хаваў сваіх пакойнікаў.

Крыху адменная раса нэандэртальскага чалавека жыла на абтоку Ява і ў Афрыцы (Радэзыя).

У 1931 г. на гары Кармэль у Палестыне знайшлі цікавы чэрап, які мае мешаніну азнак сучаснага чалавека і нэандэртальца амаль у аднолькавай ступені. Некаторыя вучоныя дабачваюцца ў ім плоднае скрыжаваньне дзьвёх людзкіх расаў, іншыя наадварот стараюцца ў ім знайсьці пераходны тып, аднак час сярэдняга Плейстацэну ня зусім у згодзе з гэтаю апошняю дагадкаю.

У 1933 г. на абшары Нямеччыны каля Штайнгайму знойдзена чэрап, які побач магутных надброўных дугаў нэандэртальца мае выразныя азнакі сучаснага чалавека

На абшары Італіі ў 1863 г. капаючы чыгуначны шлях каля Ульму знойдзена чэрап чалавека сучаснае расы разам з крамянямі мустэрскае культуры, якую знайходзім і ў нэандэртальцаў. У акрузе Вэроны каля Кінцана на абшары тае-ж Італіі нядаўна знайшлі яшчэ адзін чэрап чалавека з сярэдняга Плейстацэну, які вельмі падобны да чэрапу з Свансомбу (эоантропос).

Адгэтуль відаць, што ў сярэднім Плейстацэне існавалі дзьве розныя людзкія расы: нэандэртальская і зьбліжаная да сучаснага чалавека.

**Чалавек малодшага Плейстацэну.**

Пераход з сярэдняга да малодшага Плейстацэну зазначыўся вельмі характэрным фактам: нэандэртальскі чалавек гіне бясьследна так на абшары Эўропы, як і на іншых кантынэнтах, а яго мейсца займаюць людзі сучаснага тыпу (**homo sapiens**) з невялікімі расавымі розьніцамі, як: (Кро-Маньён, Комб. Прэдмосьць, Грімальдзі).

Пераходных расаў пакульшто ня знойдзена; чарапы з Кармэль і часткава з Штайнгайму, хоць ад бяды маглі-б уважацца за гэткія пераходныя зьвёны, але яны адносяцца да таго самага сярэдняга Плейстацэну, калі Эўропу засяляў нэандэрталец.

**Высноўкі.**

Сабраўшы ўсе вышэйпаданыя факты і супаставіўшы іх разам, ясна пабачым, што яны вельмі

нездавальняючыя, каб з іх утварыць канчаткова пэўны і нязьбіты абраз аб паходжаньні чалавека. Не зважаючы на нутранае падабенства будовы арганізму чалавека і чалавекападобных малпаў і на пэўнае вонкавае падабенства, між імі ёсьць шматлікія й істотныя розьніцы. Яшчэ Ліннэй (1707-1778) ня прызнаючы ніякае эвалюцыі, залічыў і чалавека і малпаў на аснове гэтага падабенства да аднае сям'і прыматаў. Аднак побач падабенства тыя розьніцы, што дзеляць чалавека ад малпаў такія вялікія, што зьяўляюцца амаль прадоньнем. Мазгі найбольш разьвітых малпаў не перавышаюць 600 гр., а мазгі найменш разьвітага чалавека маюць 1.250; усе малпы ходзяць на чацьвярні—чалавек на дзьвёх нагах і мае заўсёды ўзьнятую ў гару галаву; малпы ўсе касматыя — чалавек мае голую скуру, якую закрывае вопраткаю. Да таго малпам зусім няведама разумнае і псыхічнае жыцьцё. — Толькі чалавек мае сьведамасьць сябе, ведае маральнасьць і мае пачуцьцё сарамязьлівасьці, можа думаць і мае творчую ініцыятыву, якая стварае цывілізацію, а гэта ўжо духовыя сілы, якія падпарадкавалі сабе матэрыю і як такія з матэрыі паўстаць не маглі, бо яшчэ такога на сьвеце ніколі ня было, каб насьледак быў большы за прычыну, а таму што людзкая інтэлігэнцыя перавышае матэрыю, дык і паўстаньня яе трэба шукаць недзе па-за матэрыяю.

Аднак шмат якія ранейшыя вучоныя, не зважаючы на навуковую праўду ўмысна так падбіралі і супастаўлялі розныя факты, каб паказаць, што між чалавекам і чалавекападобнымі малпамі мусіць быць неразрыўны зьвязок, а калі ў іх даказваньні бракавала пераходных зьвеньняў, дык іх нават падраблялі (Гэккэль ў 1913 г.), а іншыя больш чэсныя выказвалі надзею на тое, што гэткія зьвеньні яшчэ знойдуцца.

Мінула ня мала часу ў пошуках гэтых зьвеньняў і вось сёньня мы бачым зусім адменны абраз. Тыя факты, тыя знахадкі, якія раней служылі зьвеньнямі ў разьвіцьці чалавека стварылі зусім асобны рад, каб канчаткова згінуць бясьследна. Гэткі рад твораць: чарапы пітэкантрапа, сінантрапа, гайдэльбэргца (з Майер), нэандэртальца і родэзыйскіх яго субратоў — і на гэтым іх радавод раптам канчаецца. Але ці яны запраўды маюць лучнасьць між сабою — на гэта няма доказаў.

З другога боку ім можна супаставіць іншы рад чарапоў: эоантропос з Пільтдоўн, з Сваскомбу, Ульму, Кінцано і малодшага Плеістацэну, якія ўсе належаць да сям'і сучаснага чалавека.(*homo* **sapiens**).

Аб тым, які мог быць зьвязок між гэтымі двама радамі ў сучасным стане знахадкаў нельга сказаць. Калі чалавецтва пітэнкантрапаса вельмі праблематычнае, дык нэандэрталец быў такім бясспрэчна. Але вельмі вымоўны той факт, які сёньня бальшынею вучоных прымаецца што раз больш гэта думка, што нэандэртальскі чалавек выгінуў дзякуючы сваёй дэгэнэрацыі пры спатканьні з людзьмі іншае здаравейшае расы. Вось-жа мы мелі-б дачыненьні не з прагрэсыўнаю, але рэгрэсыўнаю эвалюцыяю, бо запраўды перад нэандэртальцам існавалі; людзі больш разьвітыя (эоантропос). Аб тым, што ў прыродзе гэткія факты здараюцца ёсьць ня мала доказаў; гэткім парадкам выгінулі галаваногія амманіты разьвіўшыся да фантастычных формаў, гэткім-жа парадкам сыцылійскі пяцімэтровы слон выраадзіўся да вялічыні сабакі і канчаткова выгінуў зусім. Відаць па гэткай лініі пайшоў і нэандэрталец.

Аднак гэта ўсё яшчэ ня высьняе загадкі паўстаньня першага чалавека. Відаць што ў прыродзе мусіў адбыцца нейкі раптоўны скок, які не пакінуў ніякіх пераходных формаў. Чалавек зьяўляецца на зямлі раптам. Сёньня ўважаюць за дзіцячую байку цьверджаньне Энгельса, што праца і рука стварыла чалавека чалавекам — неадна парода малпаў мае рукі ня менш разьвітыя чым у чалавека і можа так-жа спрытна працаваць пад муштру чалавека, але ўсёроўна астаецца малпаю. Так-сама праца мурашак ўвайшла ў прыказку, аднак іх не даявяла да вышэйшага развою. Таму пасьля доўгіх і скрупулятных досьледаў штораз часьцей адзываюцца галасы розных вучоных, паводля якіх чалавек стаўся чалавекам дзякуючы сваёй разумнай душы, якая аднак не магла паўстаць з ніякае эвалюцыі матэрыі і цела. На гэтай аснове пытаньне аб паходжаньні чалавека распадаецца на два: паходжаньне цела і паходжаньне душы.

З гледзішча сьв. Пісаньня і сьв. Царквы няма ніякае засьцярогі разглядаць асобна гэтыя пытаньні, бо няма ніякае супярэчнасьці ў тым, каб Бог карыстаючыся прыроднымі прычынамі падрыхтоўваў ў павольным развою людзкое цела да тае ступені, калі яно стала адпаведным для ўспрыняцьця душы і тады адбыўся той творчы акт, калі Бог «удыхнуў у аблічча чалавека душу жыцьця» (Быц. 2, 7).

Магчыма, што прысутнасьць душы выклікала ў целе першага чалавека так асноўныя і раптоўныя зьмены, што не асталося пераходных формаў. Які мог быць той арганізм, што яго Бог абраў для чалавека, покуль што ня высьнена.

Аб тым, што ў прыродзе акрамя павольных зьменаў ёсьць раптоўныя зьмены, так званыя мутацыі ўжо даўно зацеміў ведамы батанік Дэ Вріс (1901). Мутацыі адбываюцца з нявысьледжаных *яшчэ нутраных прычынаў* — дык чаму гэта не магло стацца з чалавекам?

Усё гэта аднак яшчэ на толькі мала прасьледжана, што выказваецца ўсяго як больш або менш абаснаваныя дагадкі. На аснове таго сабранага да сёньня матэрыялу, нават такія вучоныя, як праф. Бранк—дырэктар гэалёгічна-палеонтолёгічнага Інстытуту ў Бэрліне заявіў: «Палеонтолёгія ня знае дагэтуль ніякага іншага продка сучаснага чалавека, як чалавека».

Аднак уроджаны чалавеку гон да веды ніколі ня дасьць супачыць прыродаведам і дасьледнікам у пошуках продкаў чалавека, але на падстве вяковых досьледаў так вернікі, як і ўся Хрыстова Царква зусім спакойна сьлядзіць за гэтымі пошукамі, бо на аснове гэтых досьледаў вучоныя заяўляюць: «Цяпер антрапалёгія шукае пачатку людзкога цела, яна яшчэ толькі шукае; няма патрэбы баяцца, што яна дойдзе да асуджальных, ці гэрэтычных высноўкаў, бо чудовую кнігу прыроды напісаў ня хто іншы,як Сам Бог, і яна ня можа быць звадлівай; пэўна-ж трэба ўмець яе чытаць, таму прыродаведы, якія ўсё жыцьцё прысьвячаюць расшыфроўцы гэтае цяжкае кнігі—уканцы—ёсьць шукальнікамі праўды... Бальшыня аўтараў сьцьвярджае, што сёньня яшчэ перадчасна будаваць гэнэалягічныя дрэвы чалавека, бо сёньня яшчэ ня час выцягваць сеткі, але іх трэба закідаць, каб вылоўліваць шматлікія факты...» заявіў у 1925 г. Міланскі праф. Пасторі, і быццам прадоўжваючы гэтую думку Сьвяцейшы Айцец Пій XII у 1941 г. на інаўгурацыі Акадэмыі Навук казаў: «Вос-жа не астаецца нічога іншага, як аставіць для будучыні даць адказ, на гэтае пытаньне, каб аднаго дня навука асьвечаная і ведзеная правідам дала пэўныя і бясспрэчныя вынікі што да так важнае справы».

Так выглядаюць сёньня тыя факты, на якіх свайго часу матэрыялістычная прапаганда старалася аперці сваю бязбожніцкую працу. У кожнай галіне веды што раз больш выяўляюцца сьляды Бога ў прыродзе, дык будзем спакойна сьлядзіць за тым, што і ў пошуках нашага першага продка ўканцы выявіцца мудрая рука сусьветнага Будаўніка і нашага Айца- Бога.

**а. Леў Гарошка.**

# Патрэба больш Беларускіх Сьвятароў

Кім зьяўляецца сьвятар і якая яго годнасьць, шмат гаварыць няма патрэбы. — Сьвятар — гэта той добры пастыр, што вядзе сваіх авечак на найлепшую пашу і бароніць іх ад дзікіх зьвяроў; сьвятар — гэта пасрэднік між Богам і чалавекам; ён-жа абаронца вечнае і заўсёды квітнеючае хрысьціянскае культуры; сьвятар — гэта той сьветач, што быццам сьвечка згарае бескарысна датла для агульнага дабра; урэшце сьвятар — гэта непахісны патрыёт і змагар за лепшую долю свайго народу. Даволі глянуць у гісторыю беларускага адраджэнскага руху, каб пераканацца колькі зрабіў каталіцкі сьвятар, каб абудзіць сваё дрэмлючае, каб адкінуць чужое наступаючае, каб узрасьціць сваё роднае... Каму з беларусаў няведамыя імёны кс. Магнушэўскага, кс. Лісоўскага, а. др. Абрантовіча, кс. Астрамовіча (Зязюлі), кс. Стэповіча (Сваяка), кс. Гадлеўскага...?

Калі ў іншых эпохах бурлівага людзкога жыцьця розныя модныя плыні ахоплівалі пераважна вышэйшыя пласты грамадзянства, дык сёньня нэопаганізм і бязбожны марксізм ставяць сабе за мэту перадусім апанаваць просты народ — работніка і селяніна, ды пралетарыят.

Тут можна спытаць: Хто больш шчыра жадае ратаваць гэтых людзей, ад накіданае ім подступам і сілаю пошасьці, як не сьвятар, які паходзіць з народу, і на заўсёды астаецца слугою гэтага-ж народу?

Каб глыбей і шырэй уняць пасланство каталіцкага сьватара ўсіх абрадаў, трэба ўявіць да чаго імкнецца Каталіцкая Царква. Вось-жа яна ставіць сабе за мэту:

1)абараняць годнасьць людзкое асобы, яе вольнасьць, яе інтэлектуальны і духовы ўзровень;

2) абараняць сям'ю — тую найменшую каморачку Царквы і дзяржавы, бароначы яе еднасьць, сьвятасьць і неразрыўнасьць; даць ёй ня толькі магчымасьць павялічыць людзкі род, але і ўзгадоўваць людзей; бараніць сужэнства як сьвятую Тайну, а не як звычайны цывільны кантракт;

3) абараняць вольнасьць школаў і навукі;

4) абараняць годнасьць працы, якая-б яна ня была; права атрымоўваць за яе належную заплату, выстарчаючую на ўтрыманьне сям'і працоўнага;

5) упрагчы капітал на службу ўсяго грамадзтва, асабліва не шкадаваць, яго для хворых, калек і старых;

6) абараняць прыватную ўласнасьць у неабходных межах і ўзгадаваць грамадзянства так, каб яно ўмела запраўды пахрысьціянску карыстацца ўласнасьцю;

7) заспакоіць голад і смагу душы ўсіх людзей усіх расаў і нацыянальнасьцяў;

8) выканаць загад Хрыста: навучаць хрысьціянскіх праўдаў веры і ўдзяляць сьвятыя Тайны сваім братом.

Вось некалькі сумарычных пунктаў дзеля якіх Каталіцкая Царква вядзе сёньня барацьбу супроць скрыўленых ідэяў марксістоўскай сацыялёгіі. Калі кажам: Каталіцкая Царква — разумеем усіх тых, што да яе належаць, так сьвецкіх, як і духоўных усіх абрадаў. Ведама аднак, што барацьбітамі першае лініі зьяўляюцца сьвятары, таму чым больш будзе добрых ідэйных сьвятароў, тым бесьпячней будзе для грамадзянства.

Бязбожны камунізм вядзе востры наступ на душу беларускага народу там на бацькаўшчыне прышчэпліваючы сваю руйнацкую навуку, а на

эміграцыі дэмаралізуючы яго. Каб наш народ мог абараніцца ад пагражаючай пошасьці, трэба каб на тюмач прыйшло шматлікае, добрапрыгатаванае беларускае духавенства.

Сёньня тысячы беларусаў, дзе-б яны ня былі, астаюцца без сваіх сьвятароў, бо іх ёсьць ледва лічаныя адзінкі. Калі цяпер немагчыма павялічыць кадры сьвятароў там на Бацькаўшчыне, рабем гэта тут на чужыне. Іншыя эміграцыі маюць у Заходняй Эўропе свае сэмінары, або багаслоўскія факультэты; беларуская эміграцыя толькі пачынае наладжваць сваё жыцьцё, перамагаючы вялікія цяжкасьці, таму цяжка нам мець сваю сэмінарыю, аднак калі толькі будуць ахвотнікі, ім будуць створаны дагодныя ўмовы для атрыманьня філязафічнае і багаслоўскае асьветы і для сьвятарскага ўзгадаваньня.

Служба Богу і свайму народу ў сьвятарскім стане, вымагае вялікае ахвярнасьці, але трэба кіравацца ня собскай выгадай ці карысьцю, а тою высокай ідэяй спалучанай са сьвятарствам.

Хай-жа тады тыя, з беларускае моладзі, што пачуюць у сваім сэрцы кліч стацца сьвятаром, ня гасяць першае іскры пакліканьня, хай не палохаюцца цяжкасьцяў якія іх чакаюць на шляху да мэты, але няхай зьвяртаюцца да нас, беларускіх сьвятароў, а мы зробім ўсё, што ў нашых магчымасьцях, каб іхнія шляхотныя жаданьні давесьці да вялікае мэты — сьвятарства.

**а. др. Ч. Сіповіч.**

**УВАГА** .

Тыя з беларусаў, што маюць сярэднюю асьвету і жадалі-б у будучыні стацца сьвятарамі і адначасна быць законьнікамі Закону Айцоў Марыянаў, хай зьвяртаюцца па далейшыя інфармацыі на адрыс:

S. Eccellenza Pietro-Francesce Bûcys, via Corsica 1, Roma, Italia.

Або:

Rev. C. Sipovic, «Belveder» ; (Marian House), Holden Avenue, Woodside Park, London, N. 12, England;

Пры гэтым зацікаўленыя павінны падаць год нараджэньня і асьвету.

## Прычынкі да беларускае рэлігійнае тэрміналёгіі

Беларуская рэлігійная тэрміналёгія, падобна як гэткая-ж тэрміналёгія іншых народаў, мае на сабе выразны адпячатак свайго першапачатку з дадаткам суседне-нацыянальных уплываў. Таму, што беларусы ёсьць двох абрадаў і перажывалі на сабе дзьве рэлігійна-дэнацыяналізацыйныя тэндэнцыі, дык сёньня мы стаімо перад фактам, што беларусы ўсходняга абраду карыстаюцца пераважна грэцкаю тэрміналёгіяю з расейскімі дамешкамі, а беларусы лацінскага абраду — лацінскаю з польскімі дадаткамі.

Тым ня менш для нас зьяўляецца фактам вельмі вялікае вагі, што побач вышэйназваных крыніцаў і ўплываў ёсьць своеасаблівая беларуская рэлігійная тэрміналёгія, на якую тут хочам зьвярнуць увагу, падаючы хаця некаторыя больш ведамыя звароты з кароткімі заўвагамі.

**Багач** — або Багатнік, гэта назоў сьвята Нараджэньня Прачыстае Дзевы Марыі (8-IX), называецца яшчэ Малая Прычыстая. «Прышоў Багач, кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку». Трэба дагадвацца, што назоў паходзіць ад васеньняга часу, бо-ж «У восень багат і верабей».

**Бажніца** — назоў сьвятыні ў якой месьцяцца паганскія бажкі.

**Будзённы** дзень, або проста будзень, гэта дзень у адрозьненьні ад сьвяточнага дня і нядзелькі. Утвораны ад слова «будзіць» і сягае часоў паншчыны, калі войт або цівун чуць на сьвет хадзіў пападваконьню і будзіў на працу.

**Вадохрышча** — хрышчэньне Ісуса Хрыста, або Эпіфанія-Багаяўленьне (I-6). Назоў даволі стары, ён сустракаецца ў календарных прыказках: «Трашчы, не трашчы, мінулі Вадохрышчы», гавораць падчас марозаў. Назоў гэты ўтвораны не ад абраду асьвячваньня вады, але хутчэй ад зьместу самога сьвята — хрышчэньня Хрыста ў вадзе Іардану.

**Вялікдзень** — назоў утвораны на аснове беларускае лягэнды аб тым, што ў дзень уваскрасеньня Хрыста сонца з радасьці стаяла два дні на ўсходзе, два дні на паўдні і два дні на захадзе, утвараючы такім чынам адзін вялікі дзень.

**Галаварэзы,** або Сьценціян, Галавасячэньне сьв. Івана Хрысьціцеля (29-VIII). У кожнай ваколіцы назоў розны.

**Дзявятнік,** або Дзявятуха — сьвята Найсьвяцейшае Эўхарыстыі (лацін. Божае Цела), якое сьвяткуецца ў чацьвер па нядзелі Усіх Сьвятых, — так называецца ўва ўсходнім абрадзе першая нядзеля пасьля Сёмухі. Гэты чацьвер заўсёды будзе ў дзявятым тыдні па Вялікадню, адкуль і паходзіць сам назоў.

«Сьвяты Дзявятнік жыта раўнуе«.

**Дзясятнік**, або Дзясятуха — сьвята Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса, якое сьвяткуецца ў пятніцу дзясятае нядзелі на Вялікадню, адкуль і паходзіць сам назоў.

**Каяньне** — адна з сямёх сьвятых Тайнаў. Назоў утворана ад царкоўна славянскага слова «каяніе» і абыймае сабою: рахунак сумленьня, жаль за грахі, пастанову папраўы, самую споведзь і пакуту, або з грэцкага эпітымію.

**Каляды** (25-XII). Ёсьць некалькі дагадкаў аб утварэньні гэтага слова: або яно паходзіць ад старарымскіх Календаў, або ад лягэндарнае багіні Каляды, жонкі Пяруна. Гэтая апошняя дагадка вельмі няпэўная, бо слова Каляда сустракаецца і ў палякаў, і ў расейцаў, і украінцаў, дзе гэткае багіні ня ведалі. Ня выключана, што ў аснове ляжыць звычайнае слова «кола»; ці сонечнае кола, ці нейкага нябеснага возу.

**Купала** — сьвята нараджэньня Івана Хрысьціцеля (24-VI). Слова ўтворана не ад нейкае няведамае міталягічнае постаці, але ад слова хрышчэньне-купаньне, якое раней адбывалася ў адумысных купелях. Я. Чачот у сваіх песьнях выданых у 1855 г. мае зварот «Сам Бог купаўся», таму Іван Хрысьціцель называецца Іван Купала. (Гл. Насовіч — Слоўнік с. 269).

**Пакута** — можа паходзіць: або ад слова «каваць — скованы», бо ў даўніне на Беларусі амаль пры кожнай царкве ў прытворы знаходзіліся прыкованыя к сьцяне ланцугі, якія надзявалі на яўных грэшнікаў. Гэтыя ланцугі існавалі нават да канца XVIII веку і былі пастрахам для вернікаў,

або ад слова «кут».Пры шматлікіх старых цэрквах знайходзіліся маленькія кутныя пакойчыкі ў ніжніх ярусах будынкаў, куды замыкалі каяньнікаў дзеля эпітыміі і некаторых вялікіх, яўных грахоў. (Гляд. Слоўнік Насовіча с. 460).

**Сёмуха** — назоў паходзіць ад таго, што сьвяткуецца ў сёмым тыдні пасьля Вялікадня.

**а. Л. Гарошка.**

# Хворая маці

У самую касавіцу Матруна аблежна занемагла. Старыя гады, шматлікія перажываньні ды горкія цярпеньні выснажылі яе моцныя калісь сілы, а найбольш дабіла яе няведамая доля ўсіх трох сыноў. Як пайшлі ў войска, дык як у ваду канулі. Варажыла, малілася Матруна, гадала, распытвала іншых, ці бачылі каторага небудзь з яе сыноў, але нічога не магла даведацца. Адны нешта чулі, другія нават і бачылі, але калі гэтае сьвята было; што з імі потым сталася? ніхто ня ўмеў нічога сказаць.

Ляжыць цяпер адна Матруна ў хаце, толькі дакучлівыя мухі парушаюць цішыню. Стары з дачкою і нявесткаю на сенажаці ад самага раньня, а Матруна... губы засмаглі, рукі ахлялі ганяючы мухі, якія сьлепнем лезуць то ў вочы то ў вусны; у кубку дзе была вада аж дно высахла.

Па вуліцы час ад часу праклякоча воз, вязучы сена, то малыя затупочуць нагамі, і зноў ціха.

Аб чым думае Матруна? Аб нічым. Яна ўжо зьнемаглася зусім.

Адна з дакучлівейшых мухаў накіравалася аж у нос і змусіла Матруну павярнуць галавой, каб адагнацца. Зрок Матруны мімаволі накіраваўся на печ. З пячоркі выставала старая рукавіца.

— Чыя-ж гэта? — стараецца ўспамянуць Матруна. — Цяпер лета, яна нікому непатрэбна. Ага, гэта-ж Косьцікава... Дзе ён цяпер? Божа, Божа... няўжо й яго няма?... хто яе даносіць? Ён-жа такі ўдалы, такі добры... Каб хоць яго пабачыць... Божа, каб хоць яго ўнукі гадаваць, можа-б было каму вады мне хворай падаць...

Матруна паволі зьвяртае галаву да абразоў і буйная сьляза коціцца па яе маршчыністым абліччы. Мухі нападаюць на сьлязу, але відаць за горкаю здалася ім яна.

Ізноў ціха.

Але вось на вуліцы нейкі нябудзённы прыглушаны. гоман. Нейчыя галасы недалёка ад Матрунінае хаты паўтаралі:

— Чый-жа гэта?

— Мусіць нейкі чужы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нейчыя босыя ногі затупацелі па панадворку і стралою ў хату Матруны ўляцела суседава маленькая Марыська ды кінулася да ложка Матруны:

— Бабка, ваш Косьцік ідзе!

— Што? Косьцік? — страпянулася Матруна.

— Ноале Косьцік! Я сама бачыла. Вонь абступілі яго каля Зьмітруковае хаты...

— Косьцік! Ах Божа-ж мой міласэрны! А я ні павярнуся, ні зварухнуся. А пабяжы-ж ты мая ягадка любая, скажы нашым; яны недалёка на Плянтаваньні сянуюць там недалёка каля вашых, пабяжы мая любая.

Марыська выбегла, а Матруна хвіліну счакаўшы павярнула жывей галаву, глянула на хату і сабраўшы усе сілы села на ложку. Рухі яе ажывалі; яна зьвярнулася да абразоў, перахрысьцілася, а вусны шапталі то малітву, то паўтаралі: Косьцік, Косьцік ідзе, то нешта незразумелае.

Яна спрабавала спусьціць ногі з ложка і зьвярнуцца да вакна, каб пабачыць, што дзеецца на вуліцы. Яе рука з ложка перасунулася на табурэцік і закранула парожны кубак.

—Гэта-ж ні кроплі вады ў хаце, а ён здарожаны, ах...

Яна ўчапілася рукамі за край ложка і паспрабавала ўстаць, але рукі ня трымаліся, ў галаве закружылася і яна асунулася на падлогу. Падаючы. яна ўхапілася за табурэцік, але той перавярнуўся, парожны кубак упаў і нарабіў стуку, а да

таго локаць балюча выцяўся аб нешта і гэта Матруну прыклікала да памяці. Яна худымі рукамі зноў пачала чапляцца за край ложка...

— Гэта-ж ён прыйдзе, а я на зямлі! Божа мілы...

Яна з усяе сілы падцягнулася і села на павалены табурэцік. Але тут на двары пачуліся крокі, знаёмыя крокі і перад вокнамі мігнула постаць мужчыны з хатылём за плячыма.

Быццам нейкі электрычны ток праняў Матруну. Калі адчыніліся дзьверы і на парозе паказалася апаленае й выснажанае, але так мілае аблічча роднага сына, Матруна ня помняча сябе, ня чуючы пад сабою ног, схапілася з табурэціка й кінулася на пярэймы.

— А сыночак мой, а сонейка-ж ты маё... і яна туліла яго да сваіх высахлых грудзей і цалавала яго запыленае аблічча.

— Мама, Вы-ж хворыя, вам-жа цяжка!

— Вось мне ўжо й лягчэй. Садзіся-ж хаця сам, гэта-ж ты з дарогі, да з гэткім хатылём, ды мусіць-жа ня еўшы яшчэ сёньня нічога?

— Мама я еў і прайшоў ня шмат. Толькі піць хочацца.

— А тут і вады як на грэх ні капелькі. Садзіся, сынок, садзіся во тут, ды скідай гэтую торбу, а я па ваду скочу.

— Мама, я сам схаджу, Вы сядзьце...

— Ой што ты. Гэта-ж ты гэтак высах, пацягнула, адно скура да косьці, ды яшчэ гэткаю гарачынюю за сьвет вочы йсьці...

Пакуль сын здолеў скінуць хатыль, маці мігам ухапіла вядро й вышла. Кастусь уцёр пот, раcпрануўся, глянуў па хаце і пабачыў перакінены табурэцік і кубак каля яго. Ён падышоў і падняў яго.

— Гэта мусіць мама са сьпеху абярнула.

Тымчасам маці задыхаўшыся адчыніла дзьверы, нясучы вядро вады.

— Вось маеш сьвежанькае! толькі ня пі зразу шмат, бо вельмі халодная.

Сын паволі коўтаў сьвежую ваду, а маці ўпівалася позіркамі на яго. Яна быццам уся замянілася ў зор і нявымоўная радасьць зьзяла на яе абліччы; толькі дрыжыкі ў каленях і руках сьведчылі аб нядаўнай хваробе.

Карэлічы, 1943 г.

**Анатоль Жменя.**

# ЕРУЗАЛІМ

(Прадаўжэньне).

## СТАЦЫІ КРЫЖОВАЕ ДАРОГІ.

Даходзячы да гэтага мейсца, ужо здалёк бачым па правым баку вуліцы (вежы сьвятыняў: Бічаваньня, Прысуду і «Ecce Homo».

Мейсца, дзе распачынаюцца Стацыі, знаходзіцца на самым прыгорку, адгэтуль вуліца будзе спускацца круху ўніз. Тут калісь навокал была крэпасьць Антонія і рэзыдэнцыя Пілата.

Цяпер на гэтым мейсцы, ідучы ад касьцёла сьв. Ганны, знайходзіцца будынак Паліцыі. Калі ўвайсьці на дах гэтага будынку (на Усходзе дахі найчасьцей плоскія), — дык адгэтуль вельмі добра можна аглядаць бліжэйшы квартал места, важнейшыя будынкі і Аліўную гару і на поўдня ад яе гару Скопус.

На гары Скопус відаць будынкі гэбрайскага Унівэрсытэту, а бліжэй да Аліўнае гары знайходзіцца даўнейшая нямецкая Санаторыя, так званая Аўгуста Вікторыя, з даволі высокаю вежаю.

На паўдзённым баку перад намі знайходзіцца прасторны пляц на каторым стаіць.

## МЭЧЭТ ОМАРА

адзін з найарыгінальнейшых будынкаў у Ерузаліме, ведамы яшчэ з таго, што стаіць на мейсцы даўнейшай жыдоўскай Сьвятыні, у каторай Ісус Хрыстос быў ахвяраваны, як Малое Дзіцятка, 12-ці гадовым юнаком вёў паважныя гутаркі з жыдоўскімі вучонымі, а пазьней шмат разоў навучаў і два разы выганяў гандляроў.

Гэты шырокі пляц, на каторым стаіць мэчэт Омара, дзе раней была Ерузалімская Сьвятыня, — гэта гара Морыя, ведамая з сьвятое Гісторыі. Цяпер з боку Места гэтая гара амаль нябачная, затое з даліны Кэдрону яна даволі высокая і стромая.

У мэчэце Омара на сярэдзіне знайходзіцца даволі вялікая скала, на каторай раней жыды складалі крывавыя ахвяры. Тут таксама Абрагам хацеў ахвяраваць свайго сына Ізаака.

На тэтым самым пляцы, далей за мэчэтам Омара, стаіць мэчэт Эль-Акса вельмі падобны да хрысьціянскіх базылік і, які праўдападобна за часоў крыжакоў быў касьцёлам Ахвяраваньня Багародзіцы.

Зыйшоўшы з даху Паліцыі, бачым тут-жа пляц сьпярша вузкі, а далей шырэйшы, на якім распачынаецца Крыжовая Дарога. Тут адмаўляецца **першая** Стацыя — Прыгавор на сьмерць Ісуса Хрыста.

Выйшаўшы з будынку Паліцыі, сходзіцца на вуліцу і, не даходзячу луку «Ecce Homo», заразжа адмаўляецца другая Стацыя — Ісус бярэ Крыж. Тут-жа з паўночнага боку вуліцы знайходзіцца Стацыя — Прысуду.

Каб увайсьці да гэтае капліцы, падобна як і да касьцёла Бічаваньня, трэба йсьці праз дзьверы, каторыя будуць насупроць будынку Паліцыі. У капліцы Прысуду можна бачыць раўкаватыя



каменныя плыты з таго часу, калі імі было выложана мейсца Літостротон. У касьцеле бічаваньня ёсьць адпустовы абраз бічаваньня Ісуса Хрыста.

Недалёка ад другое Стацыі над вуліцаю знайходзіцца лук «Ecce Homo», Пад лукам знайходзіцца ўваход у манастыр Сіонскіх Сёстраў. У гэтым манастыры можна бачыць таксама некаторыя дарагія памяткі з мейсца мукаў Ісуса Хрыста.

## БАЗЫЛІКА «ECCE HOMO»

Тут Пілат паказаў жыдом зьбітага і акрываўленага Ісуса, гаворачы: «Ecce Homo», (Вось чалавек), маючы надзею збудзіць літасьць да Ісуса, стараючыся Яго звольніць.

Вуліца, каторою ішоў Ісус, нясучы Крыж, так і называецца «Via dolorosa» (дорога болю).

Паверхня вуліца за часоу Хрыста была амаль на мэтар ніжэй чым цяпер, бо ад таго часу Места было некалькі разоў збуранае, перабудованае і зноў буранае войнамі. Запраўдную паверхню вуліцы можна бачыць пад базылікаю «Ecce Homo», і пад домам сьв. Вэронікі.

*Ідучы далей ад друге*е Стацыі, зыходзім вуліцаю ўніз, даходзім да папярэчнае вуліцы. Падышоўшы крыху ўлева на правым баку вуліцы на ходніку пад мурам ляжыць круглы каменны слуп. Тут Хрыстос першы раз упаў пад Крыжам — гэта трэцяя Стацыя. Тут-жа побач знайходзіцца армянскі каталіцкі касьцёл, збудаваны на мейсцы, дзе раней была капліца Сьлёз Багародзіцы.

Крыху далей на лева будзе брама і завулак, пры якім адмаўляецца — чацьвёртая Стацыя — Спатканьне Ісуса з Сваёю Маткаю.

Пару крокаў далей Крыжовая дарога пойдзе ўправа; тут на рагу вуліцы з паўдзённага боку знайходзіцца пятая Стацыя — Сымон Керынейскі памагае нясьці Крыж Хрысту. Тут ёсьць каплічка, якая адмыкаецца на час шматлюдных абыходаў: а гадз. 3 папалудні ў кожную пятніцу. У капліцы ёсьць даволі вялікія і прыгожыя фігуры прадстаўляючыя гэтую Стацыю.

Далей вуліца ўздыймаецца ўгару, спачатку нязначна, а потым штораз прытней. Падышоўшы кавалак, леваруч будзе шостая Стацыя — сьв. Вэроніка падае Ісусу хустку, каторую Ён абцёрся і аддаў назад, астаўляючы на хустцы падабенства Свайго Аблічча. У доме сьв. Вэронікі, каля каторага гэта сталася, ёсьць капліца з фігурамі прадстаўляючымі гэтую Стацыю. Капліца знайходзіцца пад апекаю грэка-каталікоў.

Яшчэ далей, ідучы тою самаю вуліцаю ўвесь час пад гару, уходзіцца ў тунэль, бо сьцены муроў з малою пярэрваю злучаны ўгары скляпеньнем. Так даходзіцца да вузкае вуліцы-рынку, дзе знайходзіцца сёмая Стацыя — Хрыстос упаў другі раз пад Крыжам. Тут ёсьць так-жа каплічка.

Калісь гэтым канчалася места і праз браму выходзілася ў кірунку гары Кальварыі. Цяпер тут навокал усё забудавана і на гэтым мейсцы крыжуюцца дзьве вуліцы, дык заўсёды тут людна і голасна.

Крыху ўлева будзе вуліца, якая йдзе далей у тым самым кірунку і вядзе да восьмае Стацыі. Гэта тое мейсца, дзе калісь літасьцівыя ерузалімскія кабеты, спаткаўшы змучанага і скатаванага Ісуса, сардэчна і голасна плакалі над Ім. Хрыстос-жа адазваўся да іх: «Дочкі Ерузалімскія! ня плачце па Мне, але плачце па сабе і па дзецях вашых» (Лук. 23, 28). Гэтае мейсца абазначана Крыжам на сьцяне грэцкага манастыра. Яно знайходзіцца ў адлегласьці якіх 30 крокаў ад сёмае Стацыі.

Ад восьмае Стацыі вуліца падымаецца так крута, што па ёй трэба йсьці, як па сходах. Такіх вуліц на старым Месьце ёсьць шмат.

Ад мейсца восьмае Стацыі Хрыстос ішоў проста ў кірунку Кальварыі, але цяпер гэтае мейсца забудаванае, таму, каб дайсьці да дзявятае Стацыі, трэба вярнуцца назад на Ранковую вуліцу, якая так-жа мае сходы і вядзе да коптыйскага манастыра, пры каторым знайходзіцца тое мейсца, дзе Хрыстос ўпаў трэці раз — дзевятая Стацыя.

Наступныя Стацыі знайходзяцца ў Базыліцы Гробу. Да Базылікі Гробу адгэтуль блізка, але цяпер дайсьці проста так-сама немагчыма, трэба зноў вярнуцца да Рынковае вуліцы, ад якое заварочваючыся направа, ды абмінаючы нямецкую пратэстанцкую сьвятыню, дойдзем на пляц перад Базылікаю Гробу.

## БАЗЫЛІКА ГРОБУ.

Гэта найважнейшае мейсца ўсіх паломнікаў, бо яно месьціць у сабе Кальварыю і Гроб Ісуса Хрыста, мейсца мукаў і сьмерці, але так-жа і мейсца Яго найбольшага трыумфу — Уваскрасеньня.

Пляц перад Базылікаю невялікі, сьцеснены кругом мурамі, так што нават вежаў Базылікі ня бачна з пляцу. Франтовая сьцяна Базылікі пасьля нядаўнага землятрасеньня пашкоджана, і ўмацавана цяпер зялезным рыштаваньнем.

Увайходзячы на пляц Базылікі, бачым падставы каменных філяраў даўнейшае Базылікі, збудаванае яшчэ Канстантынам Вялікім. Канстантынава Базыліка была зруйнавана ў 614 г. падчас першага нападу.

Сучасная Базыліка была збудавана крыжакамі, але за гэты час шмат разоў была перароблівана, асабліва пасьля пажару ў 1808 г. Перараблялі найбольш грэкі, бо яны дасталі на гэта дазвол ад турэцкага ўраду.

**Д. Аніська.**

(Працяг будзе).



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАЗОЎ У ІНШЫХ МОВАХ.

На просьбу некаторых чытачоў падаём наш нацыянальны назоў у важнейшых эўрапейскіх мовах, прыняты цяпер ўва ўсіх дыплёматычных установах:

| | | |
|---|---|---|
| пабеларуску: | беларус, | беларуская |
| паангельску: | Byelarus (Whiteruthenien) | byelarus (whiteruthenien) |
| пагішпанску: | Bieloruso | bielorusa |
| паіталійску: | Bielorusso | bielorussa |
| панямецку: | Weissruthene | weissruthenische |
| пафранцуску: | Biélorussien | biélorussienne |

## АНГЛІЯ.

### Другі Звычайны Агульны Зьезд ЗБВБ у Лёндане.

Дня 2-га траўня г.г. адбыўся ў Лёндане 2-і Звычайны Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі.

Ня гледзячы на стараньні невялікае групы дывэрсантаў сарваць, Зьезд — Зьезд адбыўся вельмі памысна і пакінуў незацёртае ўражаньне на ўдзельнікаў.

Адчыніў Зьезд старшыня ЗБВБ праф. Жук-Грышкевіч і запрапанаваў распачаць працу малітвай. Былі адсьпяваны «Ойча наш», «Магутны Божа» і гымн. Гэты ўрачысты мамэнт быў на кароткі час сапсаваны выступленьнем апазыцыі з рознымі ультыматыўнымі жаданьнямі, загадзя ня толькі падрыхтаванымі, але нават і адбітымі на ратэтары. Калі Зьезд з абураньнем адкінуў іх дамаганьні, дык яны дэманстратыўна выйшлі, а Зьезд далей спакойна і рачова правёдзіў сваю працу.

Старшынёю Зьезду быў абраны сябра Бута. Парадак дня быў даволі вялікі, аж 17 пунктаў.

Уступаючай Галоўнай Управе, за выняткам яе трох завешаных сяброў, была прызнана абсалюторыя з падзякай. Наступна адбыліся выбары новае Управы. На старшыню зноў быў выбраны праф. Жук-Грышкевіч. Да Галоўнае Управы ўвайшлі: праф. М. Нікань, а др. Ч. Сіповіч і сябры Бута, Лашук А., Надсон А. і Бартуль Ф. Адначасна была абраная Наглядная Рада і Сяброўскі суд.

Далей было вынесена рад важных разалюцыяў між якімі:

1) пастаноўлена давесьці да мэты куплю Беларускага Дому ў Лёндане, з гэтаю мэтаю прысутныя злажылі ахвяры ў суме 52 фунты і зьвярнуліся з заклікам да іншых сяброў складаць далейшыя ахвяры.

2) вынесена рэзалюцыя, што адзіным легальным беларускім нацыянальным прадстаўніцтвам зьяўляецца Рада і Урад БНР з выяўленьнем падзякі Радзе БНР і яе Прэзыдэнту за іх ахвярную працу. Дзейнасьць адноўленае БЦР пастаноўлена асудзіць як шкодную.

3) выбрана 5 асобаў ад беларускае эміграцыі ў Англіі, як сяброў у Раду БНР.

4) за дэструктыўную працу было выключана трох сяброў із ЗБВБ.

Праца Зьезду трывала ад 10 да 23,30 г. ночы. Згодна з пратаколам мандатнае Камісіі на Зьезьдзе ўдзельнічала 50 чалавек з правам рашаючага голасу. Апрача таго былі госьці. Адсьпяваньнем нацыянальнага гымну Зьезд скончыў сваю працу.

Няма сумніву, што 2-і Агульны Зьезд ЗБВБ — гэта паважны крок наперад у беларускім арганізацыйным жыцьці у В. Брытаніі.

## БЭЛЬГІЯ.

### Спраставаньне.

З незалежных ад Радакцыі прычын, падаючы у папярэднім нумары нашага часапісу аб Агульным Сходзе СББ, укралася прыкрая памылка на с. 16, замест БЦР надрукавана БНЦ. Таму на гэтым мейсцы перапрашаем управу Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. Згодна з пратаколам успомненае мейсца на с. 16 «Божым Шляхам» № 5(8) належыць чытаць: «Зьезд уважае... БЦР за чужацкую агэнтуру».

### Новы часапіс.

У красавіку выйшаў ратататарным друкам першы нумар часапісу «Незалежнасьць», як орган Беларускага Нацыянальна-Рэвалюцыйнага Руху.

## ДАНІЯ.

### Выезд Беларусаў.

Хоць і прыхільна была прынята данцамі нешматлікая беларуская эміграцыя, аднак мусіла шукаць сабе іншага мейсца жыхарства, бо Данія й так пералюднена. Пасьля доўгіх і цяжкіх стараньняў беларусы нарэшце змаглі дастаць дазвол і магчымасьць пераехаць у іншыя заходняэўрапэйскія краіны і на працягу красавіка і травеня г. г. некалькімі транспартамі ўсе выехалі з Даніі.

## ІТАЛІЯ.

### Эміграцыя за акіян.

На абшары Італіі ў 1945 г. была даволі вялікая колькасьць беларусаў у радох арміі гэн. Андэрса і ў некаторых лягэрах. Адначасна з пераездам арміі Андэрса выехалі шматлікія цывільныя асобы, а ў тым ліку й беларусы. Для тых што асталіся, умовы жыцьця штодня пагоршваліся, бо Італія пералюднена так, што самі італійцы змушаны масава эміграваць у іншыя краіны. У сучасны мамэнт міжнароднае палажэньне ўплыло на тое, што тыя нешматлікія лягэры, якія яшчэ да гэтага часу былі ў Італіі, лаквідуюцца. У зьвязку з гэтым невялікая колькасьць беларусаў, якая знайходзілася ў лягэрах, выехала за акіян.

## КАНАДА.

### Ахвярнасьць.

Што можа зрабіць ахвярная праца некалькі чалавек бачна з часапісу «Беларускі эмігрант». Не зважаючы на тое, што сам радактар працуе звычайным работнікам на фарме, часапіс выходзіць сыстэматычна штомесяц і ў штораз большым абыйме і, дзякуючы свайму здароваму зьместу, знайходзіць прыхільнае прыняцьце між раскіданых па аграмадных абшарах Канады суродзічаў. Відаць што ахвярная праца ня йдзе на марна.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Выпуск матурыстых.

Сёлета ў Беларускай Гімназіі ім. Я. Купалы атрымала матуральныя пасьведчаньні 8 чалавек і ў Беларускай Гімназіі ім. М. Багдановіча 9 чалавек. Новым матурыстам ад душы жадаем здабыцьця вышэйшае асьветы.

### Новая Скаўцкая Дружына.

У Зээдорф каля Брэмэну заснавалася ад сакавіка г.г. беларуская скаўцкая дружына. Скаўты наладзілі сваю сьвятліцу і невялічкую біблятэчку. Прыспарай ім Божа ў працы.

### Прысяга скаўтаў.

Дня 25-III г.г. у лягэры Віндзішбэргэрдорф адбылося ўрачыстае злажэньне прысягі і ўручэньне сьцягаў скаўтам 6-га сьцягу.

### Як гэта назваць?

Дня 6-га травеня г.г. у дзень сьв. Юр'я апякуна скаўтаў у праваслаўнай лягэрнай царкве ў Міхэльсдорф здарыўся нячуваны дагэтуль выпадак. Царкоўны стараста разам з сваімі супрацоўнікамі напалі на ўвайходзячы скаўцкі дзявочы бел-чырвона-белы сьцяг, на абодвых баках якога было выпісана «Беларусь», зьдзерлі яго, кінулі на падлогу і патапталі нагамі (а царква рахуецца беларускай), у гэтым мамэнце быў унесены ў царкву хлапцоўскі сьцяг, на адным баку якога напісана «Беларусь», а на другім «Крывія», яшчэ горшая доля стрэла гэты сьцяг. Калі, разгубленыя гэткімі паводзінамі царкоўных праваслаўных людзей, скаўты маніліся кінуцца ў абароне сваіх эмблемаў, на іх яшчэ накінуўся з крыкам праваслаўны сьвятар у царкоўных рызах і з крыжам у руках. Скаўты падабралі свае сьцягі з паганбленае самымі-ж царкоўнымі ўладамі сьвятыні і адмаршыравалі на спартовы пляц. Там ачысьцілі сьцягі сваімі чыстымі рукамі, абмылі іх сваімі сьлязамі і прысягалі на іх служыць верна Богу й Бацькаўшчыне...

Можна гаварыць аб шкоднай прапагандзе Крывіі, але што гэта мае супольнага з рэлігійным жыцьцём? Зачым сьвятыні перамяняць у арэны змаганьня? Ды якая гэта Царква мае такія сьвятыні з якіх выкідае і ганьбіць народныя сьцягі?

Хрыстос сваім апосталам і ўсім іх пасьлядоўнікам загадаў: «Ідзеце навучайце ўсе народы» (Мат. 28, 19). Паслушныя гэтаму загаду Хрыстовы місіянэры й сёньня йдуць да ўсіх народаў і плямёнаў з навукаю сьв. Евангельля. А чые-ж гэта апосталы заселі ў Міхэльсдорфскай царкве? Чые загады яны выконваюць?

## ФРАНЦЫЯ.

### Агульны Сход Сындыкату Беларускіх Работнікаў у Францыі.

Дня 11-4-г.г. у залі Сындыкату КФТК у Парыжу адбыўся Агульны гадавы Сход Сындыкату Беларускіх Работнікаў у Францыі. Адчыніў Сход гэнэральны сакратар інж. Рыдлеўскі. Наступна пасьля выбару старшыні Сходу і зацьверджаньня парадку дня адбылася справаздача Гэнэральнага Сакратара і Рэвізыйнае Камісіі. Пасьля прызнаньня абсалюторыі, адбыліся выбары новага Ураду.

Гэнэральным Сакратаром ізноў аднагалосна выбраны інж. Л. Рыдлеўскі. Да Галоўнае Управы выбраны сябры М. Наумовіч і А. Монід. Пасьля выбараў Рэвізыйнае Камісіі, былі намечаны галоўныя заданьні працы на бягучы год і прыняты меры супроць чужых уплываў.

### Супольнае Разгаўленьне.

На Вялікдзень 2-га травеня пасьля ўрачыстае Службы Божае ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюлпіс, усе прысутныя ў царкве і госьці перайшлі ў салю Хрысьціянскага Сындыкату, дзе ў сямейнай атмасфэры адбылося разгаўленьне згодна з беларускім звычаем. Пасьля разгаўленьня адбылася кароткая забава.

### Спартовая Сэкцыя.

Беларуская моладзь з Сындыкату Хрысьціянскіх Работнікаў у Парыжу ад нядаўна зарганізавала свой спартовы гурток і распачала сыстэматычныя ўправы ў вольны ад працы час.

### Прызнаньне беларускае нацыянальнасьці.

Даводзіцца да ведама ўсіх беларусаў, пражываючых на абшары Францыі, што ІРО (Інтэрнацыянальная Арганізацыя для ўцекачоў) ад цяпер

будзе выстаўляць пасьведчаньні для беларусаў з азначаньнем нацыянальнасьці:

Кожны беларус можа атрымаць гэткае пасьведчаньне і потым прасіць Прэфэктуру, каб замянілі раней упісаную іншую нацыянальнасьць (ці паходжаньне) на сапраўдную, беларускую.

Пры гэтай нагодзе падкрэсьліваецца, што ІРО таксама выстаўляе паперы неабходныя для атрыманьня карты побыту, мэтрыкі, пашпартоў і г. д.

Ува ўсіх справах да ІРО па дакладнейшыя інфармацыі зьвяртацца да беларускага прадстаўніка інж. Л. Рыдлеўскага Гэнэральнага Сакратара Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі на адрыс:

Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue Montholon, Paris 9.

**Да новапрыехаўшых у Францыю.**

Беларусы нядаўнапрыехаўшыя ў Францыю ў выпадку якіхсьці цяжкасьцяў ці непаразуменьняў на мейсцы працы хай неадкладна зьвяртаюцца да Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Адрыс што і ў папярэдняй зацемцы.

**Заклік да беларускіх выдаўніцтваў і радакцыяў.**

Беларуская Бібліятэка ім. Я. Купалы ў Парыжы ветліва просіць усе беларускія радакцыі і выдаўніцтвы прысылаць свае выданьні на адрыс:

Bibliothèque Biélorussienne, 26, rue de Montholon, Paris (9).

**ПОШУКІ:**

**Раманоўскі** Іван шукае сваіх сыноў: **Канстантына** нар. 1926 г. і **Браніслава** нар. 1923 г. Пісаць на адрыс:

(24) Eckernförde, Rendsburger Chaussé, Hel-Camp IRO Team 901, Bar. 525. Schleswig-Holstein. British Zone.

**Бабічаву** Марысю шукае знаёмы з Мюнхэна.

Бацьку **Сташэўскага** шукае яго дачка Ліда. Пісаць на адрыс радакцыі.

**БІБЛІЯГРАФІЯ.**

**М. Кавыль — «Ростань».** Рэгэнсбург, 1947. фар. 16. Гэта невялічкі зборнік на 44 с. лірычнае паэзіі прасякнутае глыбокім сумам, народжаным з ростані з родным краем, якія часам даводзіць паэта аж да роспачы, у якой застаецца толькі «у вір галавою», аднак паважнае падтрыманьне дае паэту вера ў «Божую ўсясілу».

**М. Сяднёў — «Спадзяваньні».** Рэгэнсбург. Фарм. 16 ,стар. 95. Гэта чарговы зборнік дробных вершаў прысьвячаных перадусім апісу зьяваў прыроды і асабістых перажываньняў — лірыкі вельмі рознаякага характару пераплятаны сумнымі ўспамінамі турэмнага жыцьця.

**Інж. М. Абрамчык — «Аб прыродных багацтвах Беларусі».** Рататарны друк Лёндан, 1948. Тут вельмі яскрава і вобразна разьбіваецца тая лягэнда аб «беднасьці» Беларусі, якую сьведама пашыралі ворагі беларускага вызвольнага руху, каб выклікаць зьнявер у самых беларусаў што да магчымасьці самастойнага існаваньня беларускае дзяржавы. Выдаючы гэтую брашуру, ЗБВБ зрабіла вялікую прыслугу для эміграцыі.

**Праф. Др. Я. Станкевіч** — «Падручнік крывіцкае (беларускае) мовы». Рэгэнсбург, 1947. фарм. 8, ст. 124. Пісаць рэцэнзыю на гэты «падручнік» можна было-б падвойна: або — пішучы рэцэнзыю, напісаць запраўдны падручнік беларускае мовы, выказваючы пры гэтай нагодзе памылкі і фантастычныя выдумкі аўтара, або — коратка парадзіць аўтару даць больш правільны назоў «падручніку», якім ён ёсьць у запраўднасьці — «Падручнік перакручаньне беларускае мовы», бо аўтар не пакінуў амаль ніводнага жывога мейсца ў беларускай мове, каб не перакруціць на свой капыл. Чытаючы гэны «падручнік», само напрошваецца пытаньне: каму і якая карысьць з гэтага перакручваньня роднае мовы, якая асабліва на эміграцыі зьяўляецца адным з найбольшых нашых нацыянальных скарбаў і падтрымкаю ад вынарадаўленьня?

Відаць аўтар у сваім заразуменьні ўважае, быццам да гэтага часу ня было ані аўтарытэтнае беларускае граматыкі, ані ўсталенае беларускае мовы; тады лепш было-б зусім не чапаючы беларускае мовы тварыць нейкую новую «подля собскае навучонасьці».

**ЗЬМЕСТ.**



Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.